# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 52 (2298) 24 снежня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).




**СВАІХ ЧЫТАЧОЎ**

у далёкім і блізкім замежжы, а таксама на Беларусі шчыра віншуем з надыходзячымі Калядамі і Новым, 1993 годам.

Найлепшыя зычанні вам і вашым сем'ям!

**«ГОЛАС РАДЗІМЫ».**

*ХТО АБАРОНІЦЬ ЗАМЕЖНАГА СУАЙЧЫННІКА?*

## ГОРКІ ДЫМ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

**ДЛЯ ЧАГО СТВОРАНА ДЗЯРЖАЎНАЯ СЛУЖБА МІГРАЦЫІ**

Ідучы на сустрэчу з начальнікам зводна-аналітычнага аддзела Дзяржаўнай службы міграцыі Беларусі кандыдатам гістарычных навук і эканамістам Уладзімірам БЕЛАЗОРАМ, я не без задавальнення думаў, што балючая праблема, да якой шматразова звяртаўся «Голас Радзімы», нарэшце трапіла ў фокус увагі ўладаў і вырашаецца. Ва ўсякім разе паўстала спецыяльная дзяржаўная арганізацыя, якая дасць раду такой складанай матэрыі, як міграцыйныя зрухі насельніцтва: эміграцыя, іміграцыя, бежанства. І, што самае найважнейшае, у цяжкую, смутна-крывавую гадзіну не кіне ў бядзе і горы сыноў, дачок і ўнукаў Бацькаўшчыны, выгнаных з іншых эсэнгэўскіх рэспублік. Аб гэтым я і сказаў з парога Уладзіміру Якаўлевічу...

— Афіцыйна, згодна з пастановай Савета Міністраў рэспублікі, служба міграцыі распачала сваю дзейнасць пры Дзяржаўным камітэце па працы летам гэтага года. Менавіта мы падрыхтавалі і перадалі ўраду матэрыялы для выпрацоўкі дакументаў па аказанню дапамогі бежанцам і часовага палажэння аб рабоце з імі. Такія падзаконныя акты да прыняцця асобнага закона маглі б паслужыць асновай як для нашай, так і работы мясцовых органаў кіравання.

Затым мы распрацавалі праект Закона аб міграцыі. У ім улічваўся і вопыт Казахстана, дзе такі заканадаўчы акт ужо зацверджаны, і Расіі, і міжнароднай супольнасці. Меркавалася, што мэта новай службы — выпрацоўваць і рэалізоўваць іміграцыйную палітыку Беларусі, якая ўключала б шматлікія аспекты знешняй і ўнутранай эканамічнай, сацыяльна-палітычнай стратэгіі дзяржавы. Галоўны стрыжань такой палітыкі — узяць пад апеку, абараніць правы і інтарэсы нашых землякоў, што жывуць за межамі Бацькаўшчыны. А таксама адклікацца на вострыя і надзённыя патрэбы бежанцаў, што пераехалі да нас.

Было спадзяванне, што, прайшоўшы праз этап вывучэння і экспертызы ў абласных выканаўчых камітэтах, у Савеце Міністраў, камісіях Вярхоўнага Савета, згаданы праект будзе прыняты на гэтай сесіі парламента. Аднак такога не здарылася. Сярод кіраўніцтва і парламента, і ўрада перамагла думка, што калі прыняць такі закон ды яшчэ ўтварыць міграцыйную службу, дык мы тым самым стымулюем прыток бежанцаў у рэспубліку. Свой вердыкт вынесла і Міністэрства фінансаў: няма прадпасылак для стварэння міграцыйнай службы...

— Ваша становішча, мала сказаць, «неакрэсленае»... Як у той забытай песеньцы: «С одной стороны — мы дома сидим, с другой стороны — мы едем». А можа і, сапраўды,

(Заканчэнне на 3-й стар.).



**«...На ўсё яго хапала, усюды сказаў важкае слова. Вядомы гісторык, таленавіты публіцыст, адметны пісьменнік, літаратуразнавец. А яшчэ кнігазнавец, лексікограф, журналіст, грамадска - палітычны дзеяч, арганізатар навукі».**

**(На 4-й, 7-й стар. чытайце нарыс Генадзя КІСЯЛЁВА «ВЛАСТ», прысвечаны Вацлаву ЛАСТОЎСКАМУ).**

НАКІРУНАК — РЫНАК

## НАСКІ ВАРЫЯНТ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

**Беларускі варыянт прыватызацыі, лічыць член выканкома Партыі народнай згоды Леанід Лойка, прывядзе да паскоранага фарміравання бюракратычнага капіталу, умацавання новага сацыяльнага пласта — прадпрымальніцка-чыноўніцкай алігархіі.**

**Прапануючы свае варыянты прыватызацыі, ПНЗ хацела б абараніць інтарэсы грамадзян Беларусі з дапамогай банка прыватызацыі. Такі банк, спецыяльна створаны, на першапачатковым этапе змог бы акумуліраваць усе прыватызацыйныя чэкі насельніцтва і выплачваў бы іх уладальнікам акрэсленыя дывідэнды.**

**Першым крокам у раздзяржаўленні прадпрыемстваў, на погляд Л. Лойкі, самым разумным быў бы — перадаць прадпрыемствы працоўным калектывам і іх саветам у доўгатэрміновую арэнду з правам пазнейшага выкупу.**

АДКРЫТЫ ЛІСТ

## ЗНОЎ ПРА ДВУХМОЎЕ

Акадэмікі Сібірскага аддзялення Расійскай акадэміі навук В. Капцюг, А. Трафімук, В. Пармон, чые продкі паходзяць з Беларусі, звярнуліся з адкрытым лістом у Вярхоўны Савет рэспублікі. Яны заклапочаны «паступовым пераходам да беларускага аднамоўя». Нам, як і ўсім іншым выхадцам з Беларусі, блізкая і далёка не чужая беларуская мова, мова нашых продкаў і нашай самабытнай культуры, пішуць яны. Аднак нас па-сапраўднаму непакояць спробы прымусу да пераходу на беларускую мову і дакладных навук, і тэхнікі, і адпаведных прадметаў у сярэдняй і вышэйшай школе, што пачаліся ў апошнія месяцы. Акадэмікі заклікаюць Вярхоўны Савет захаваць двухмоўе ў Беларусі, без рускай мовы, пераконваюць аўтары ліста, наша навука змарнее.

«Інакш любое самае выдатнае адкрыццё, выкладзенае на маладаступнай мове, застанецца незаўважаным і незапатрабаваным. Спецыяліст і дзяржава, якія патрацілі на яго грошы, спрацуюць «ухаластую».

Самы просты і надзейны шлях да самазамыкання спецыялістаў — прымусіць іх пісаць і публікаваць свае вынікі на мове, якая не будзе даступнай астатнім спецыялістам іх галіны ведаў. Нельга выдаваць тэхнічную дакументацыю толькі на роднай мове, якая не будзе зразумелай дастаткова шырокаму колу спажыўцоў гэтай дакументацыі.

Добраахвотнае прыняцце адзінай для вялікай краіны рускай мовы ў навуцы і тэхніцы было б дабром для ўсіх саюзных рэспублік, а не вялікадзяржаўнай прыхамаццю Расіі, лічаць вучоныя. Адмовіўшыся ад гэтай мовы, рэспублікі прывядуць сваю навуку і тэхніку да самазамыкання і калі не да катастрофы, то, па крайняй меры, да шматразовай страты іх патэнцыялу і прадукцыйнасці.

Ці слушная перасцярога?

МОДА



**У Парыжы адбудзецца заключны тур міжнароднага фестывалю, які праводзіць фірма вядомага заканадаўцы моды Ніны Рычы. Там будзе прадстаўлена вячэрняя сукенка, названая аўтарам «Захапленне колерам». Стварыў яе наш зямляк Ігар ЧАПУРЫН (на здымку).**
**Ігар—студэнт другога курса Віцебскага тэхналагічнага інстытута лёгкай прамысловасці. Нядаўна ён асмеліўся спаборнічаць са славутасцямі на конкурсе ў Маскве і ўвайшоў у дзесятку лепшых.**
**Можа, смеласць і талент пакораць і Парыж!**

БУЙНЕЙШЫ У ЕЎРОПЕ



**Вытворчасць больш 10 тыпаў новых аўтапакрышак асвоіў у гэтым годзе калектыў Беларускага шыннага камбіната ў Бабруйску. Яны прызначаны для аўтамабіляў «ГАЗ-24», «Масквіч-2141», тралейбусаў, сельгасмашын.**
**Першая шына была выраблена на прадпрыемстве 20 гадоў назад. Цяпер камбінат — адзін з буйнейшых у Еўропе. Тут выпускаецца звыш 50 тыпаразмераў шын, у тым ліку для будаўнічых, дарожных машын, аўтамабіляў вялікай грузапад'ёмнасці. Апрача асноўнай прадукцыі, прадпрыемства наладзіла выпуск шырокага асартыменту тавараў народнага спажывання.**
**НА ЗДЫМКУ: у цэху завода звышбуйнагабарытных шын.**

ДЭПУТАТЫ ПАДТРЫМАЛІ

## ЛЬГОТЫ БЫЛЫМ ВЯЗНЯМ

Колькасць грамадзян Беларусі, якія карыстаюцца льготамі, павялічылася прыблізна яшчэ на 350 чалавек. Дэпутаты Вярхоўнага Савета падтрымалі прапанову старшыні Камісіі па справах ветэранаў і інвалідаў Міхаіла Жукоўскага аб тым, каб да ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны былі прыраўнаваны па льготах і тыя грамадзяне Беларусі, якія ў гады ліхалецця знаходзіліся ў фашысцкіх канцэнтрацыйных лагерах, гета, іншых месцах прымусовага ўтрымання.

Крыху раней падобнае рашэнне было прынята адносна малалетніх вязняў, якіх налічваецца сёння ў рэспубліцы каля 12 тысяч чалавек.

ЭКАНАМІЧНЫ ПРАГНОЗ

## З НОВЫМ ГОДАМ!

На сустрэчы з журналістамі ў Савеце Міністраў Беларусі рабіліся прагнозы на новы, 1993 год. Яны не даюць падстаў для радасці. З далейшым ростам цэн на энерганосьбіты падаражае ўсё без выключэння. Малаверагоднай уяўляецца стабілізацыя ў рэспубліцы і на будучы год без замарожвання цэн на нафту і газ. Таму ўрад ужо сёння вымушаны адшукваць сродкі для датацый на набыццё асноўных прадуктаў харчавання. Калі б ён не зрабіў гэтага, то літр малака каштаваў бы 30 рублёў, а кілаграм хлеба—70 ужо сёння.

Але больш за ўсё хвалюючы зніжэнне нацыянальнага даходу прыкладна на 15 працэнтаў ужо ў гэтым годзе, падзенне вытворчасці. Таму што, не выпускаючы, немагчыма размяркоўваць, вышукваць сродкі для павелічэння пенсій і дапамог маламаёмным, якія ледзь зводзяць канцы з канцамі.

З улікам сённяшняй сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ўрад вырашыў з апярэджаннем узняць мінімальны ўзровень зарплаты да трох тысяч рублёў у месяц.

НОВЫЯ ЗАПІСЫ

## ГУЧЫЦЬ «МАГУТНЫ БОЖА»

З'явіўся новы запіс у фанатэцы Беларускага радыё. Гэта гімн-малітва М. Равенскага на вершы Н. Арсенневай «Магутны Божа». Упершыню пра Міколу Равенскага і яго трагічны лёс у Беларусі даведаліся з публікацый, змешчаных у «Голасе Радзімы» некалькі месяцаў назад.

Выканала гімн гродзенская «Тызенгаўз-капэла».

Дарэчы, запіс зроблены ў будынку цяперашняга Музея гісторыі рэлігіі.

ПЛЫВУЦЬ ДОЛАРЫ

## ДЛЯ МІРСКАГА ЗАМКА

**Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь атрымала па лініі ЮНЕСКА 25 тысяч долараў, якія прызначаны спецыяльна на рэстаўрацыю Мірскага замка. Усяго на аднаўленне гэтага сусветна вядомага гістарычнага помніка з дапамогай спонсараў з Італіі, Германіі і іншых краін далёкага замежжа чакаецца паступленне паўмільёна долараў.**

*«Іншаземцы цяпер могуць прыходзіць, куды хочуць і калі хочуць. Усё, што было дыслацыравана на тэрыторыі былой Беларускай ваеннай акругі, за выключэннем РВСН і ўрадавай сувязі, ужо вядома Захаду. Нават па батальёнах. Мы не можам падыходзіць да справы без кампанейшчыны. Дагавор аб звычайных узбраеннях у Еўропе, да якога далучыліся і мы, не прымушаў нас даваць такія звесткі.*

*Наша ведамства таксама валодае інфармацыяй, што ў некаторых з 20 ваенных замежных інспекцый, якія праводзіліся ў нас, было да 50 працэнтаў супрацоўнікаў заходніх спецслужбаў. Мы ж не здолелі пакуль што наладзіць за мяжой ніводнай інспекцыі.*

*Як бы мы ні стараліся стаць адкрытымі, нацыянальныя інтарэсы патрабуюць дзяржаўных сакрэтаў. І нам проста неабходна выпрацаваць сістэму, якая іх надзейна ахоўвала б».*

*Валерый КЕЗ, намеснік старшыні КДБ Беларусі, начальнік упраўлення ваеннай контрразведкі КДБ.*

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў задаў 1 130 чалавекам пытанне: «З кім вы звязваеце надзеі на выхад Беларусі з крызісу?» 34 працэнты апытаных адказалі: «З урадам рэспублікі». На замежны капітал спадзяюцца 31,3 працэнта, з палітычнымі партыямі звязваюць надзеі толькі 5,5 працэнта апытаных.

● За 1992 год колькасць дзіцячых садкоў і ясляў зменшылася ў Беларусі на 270. Большасць з іх былі ў сельскай мясцовасці. Асноўная прычына: бацькам не па кішэні аддаваць дзяцей у садкі і яслі.

● Выдаткі на ліквідацыю вынікаў чарнобыльскай катастрофы ў Расіі склалі летась 3,7 мільярда рублёў, сёлета—65 мільярдаў рублёў, на Украіне адпаведна 6,7 мільярда рублёў і 147 мільярдаў рублёў. У Беларусі ж у 1991 годзе было выдаткавана 4,9 мільярда рублёў, у 1992-м —толькі 33 мільярды рублёў.

● Цяперашнія кантрольна-прапускныя пункты ў Віцебскай вобласці не могуць забяспечыць выкананне Закона аб ахове спажывецкага рынку —беларускія тавары вывозяцца за мяжу па прасёлачных дарогах. У новым годзе тут будуць створаны на мяжы з Латвіяй, Літвой і Расіяй 10 стацыянарных і 14 мабільных КПП.

● У Магілёве ўспыхнула эпідэмія дыфтэрыі. Усяго ў горадзе выяўлена пакуль 13 хворых. Межы эпідэміі пашыраюцца.

● Згодна з Пастановай Вярхоўнага Савета рэспублікі, за праезд на тэрыторыі Беларусі з вадзіцеляў літоўскіх машын будуць браць транзітны падатак: за легкавы аўтатранспарт — 10 долараў ЗША, за аўтобус—40 долараў, за грузавік—20—40 долараў. Прадугледжваецца таксама транзітны падатак са сродкаў паветранага і чыгуначнага транспарту.

«УРЭЗАНАЯ» РАДАСЦЬ




**Бадай, не знойдзецца ў нас хлопчыка ці дзяўчынкі, хто б не атрымаў на Новы год традыцыйнага падарунка. Але якім будзе гэты падарунак сёлета! Для большасці дзяцей хутчэй за ўсё вельмі сціплым, бо цэны (на здымку) у татаў, мамаў, дзядуль і бабуль выклічуць, мякка гаворачы, здзіўленне і горыч.**
**Вось і атрымліваецца, што мы нібыта адбіраем часцінку радасці ў дзяцей у такі жаданы і любімы ўсімі дзень.**

# ГОРКІ ДЫМ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

«няма прадпасылак»? Значыць, Бог мілаваў, няма і бежанцаў? Але перш-наперш некалькі слоў аб «стымуляцыі» наплыву ўцекачоў. На мой розум, дык гэты працэс лёгка рэгламентуецца «статусам бежанца», атрыманне якога прадугледжвае абавязковую працэдуру: збор дакументаў, наяўнасць адпаведных прыкмет...

— ...такіх, як факты парушэння правоў чалавека, пагрозы яго жыццю, перасячэння мяжы... Усё гэта так, але нонсенс у тым, што ў беларускім заканадаўстве адсутнічае гэты статус.

— А тыя дзве сотні з далёкага замежжа, што быццам бы папрасілі прыстанішча ў Беларусі?

— Гэта асобная катэгорыя палітычных эмігрантаў з Ірана, Эфіопіі і Афганістана. Для прыняцця рашэння па справах падобнага характару створана Камісія пры Прэзідыуме Вярхоўнга Савета Рэспублікі Беларусь.

— Гэтай катэгорыі пашанцавала больш, чымсьці былым савецкім грамадзянам — браткам-беларусам, што асвойвалі цаліну ў Казахстане, паехалі па размеркаванню інстытута на працу ў Грузію ці Малдову, будавалі Нурэкскую плаціну ў Таджыкістане, служылі ў войску на сопках Запаляр'я, а сёння не маюць, дзе прытуліцца, бяздомныя... Але, прабачце, вернемся назад. Дык што, няма «прадпасылак»?

— Так можа гаварыць адно абсалютна недасведчаны чалавек. У мінулым годзе было зарэгістравана 1 200 бежанцаў, у гэтым — 4 200. Мы перажылі ўжо чатыры хвалі бежанства, што абрынуліся на Беларусь. Першая з Арменіі і Азербайджана, другая з Паўднёвай Асеціі і Грузіі, трэцяя з Паўночнага Каўказа, чацвёртая з Таджыкістана і Прыднястроўя. У Мінску цяперашнім часам хто дзе, у родзічаў, знаёмых, а некаторыя на вакзале, мыкаюць гора 300 чалавек. І мы практычна мала чым можам ім дапамагчы. Нават не вызначаны месцы рассялення. Днямі да нас прыйшла жанчына-беларуска з Абхазіі. Кінула ўсё і з трыма дзецьмі дабралася да Мінска, па дарозе згубіўся сын... Няма дзе жыць, пайшла на вакзал. Дваіх бежанцаў-састарэлых я, скарыстоўваючы асабістыя кантакты, упрасіў уладкаваць у пансіянат... Ды ці гэта дзяржаўны падыход, мацярынскі клопат Радзімы? Штодзень пісьмы, званкі, слёзы. А мы — бяссільныя!..

І ўлічвайце, што гэтыя лічбы моцна заніжаны. Далёка не ўсе прымусовыя перасяленцы ведаюць пра нашу службу і рэгіструюцца. Нядаўна высветлілася, што ў Гродзенскай вобласці аселі 900 чалавек. Яны не маюць жылля, але прыпісаліся, і толькі на гэтай падставе іх не занеслі ў катэгорыю бежанцаў.

Міжэтнічныя канфлікты і войны ў Закаўказзі і Сярэдняй Азіі, сацыяльна-эканамічная дыскрымінацыя і парушэнні правоў чалавека ў Прыбалтыцы і Малдове прымушаюць нашых землякоў шукаць паратунку на Бацькаўшчыне. Бежанства набірае моц. А ў Латвіі налічваецца 120 тысяч нашых суродзічаў, у Эстоніі — 29 тысяч, у Малдавіі — 20 тысяч (пры тым, што на Беларусі жывуць 5 тысяч малдаван). Тэндэнцыя развіцця падзей, эскалацыя міграцыйных працэсаў, іх дынаміка паказваюць, што ў наступным годзе трэба чакаць 8—10 тысяч бежанцаў. А хто гэтымі няшчаснымі выгнаннікамі будзе займацца?

— І няма аніякай праграмы?

— Як я ўжо сказаў, мы ўсё інтэгрыравалі ў праект Закона і часовае палажэнне. На гэты момант, паўтараю, не выбраны нават месцы для засялення. На міграцыйную службу глядзяць сёння з пазіцыі мінулага дня. У лепшым выпадку, закранаецца адзін, дэмаграфічны момант: народанасельніцтва, маятнікавая міграцыя (працуе ў горадзе — жыве ў сяле) і г. д. У тых, ад каго залежыць фарміраванне іміграцыйнай палітыкі, бракуе вопыту, ведаў, разумення выключнай важнасці гэтай тонкай сферы грамадскага жыцця. Ды аб якой іміграцыйнай палітыцы можа ісці гаворка... Ні ў Савеце Міністраў, ні ў Вярхоўным Савеце Беларусі няма спецыялістаў па гэтай галіне.

— Каб на маім месцы быў хтосьці з кіраўнікоў, ён абавязкова сказаў бы традыцыйнае: крытыкаваць — усе мастакі, а што канструктыўнае вы прапануеце?

— Прыняць нарматыўна-прававую базу і даць службе міграцыі магчымасць працаваць, можа быць, і ў выканаўчай сістэме ўлады. Выбраць рэгіёны з улікам мясцовых асаблівасцей і патрэб для засялення мігрантамі, будаваць консульскую службу у замежжы, задзейнічаць таварыствы і суполкі беларусаў у краінах іх пражывання. Не марудзячы, заключаць двухбаковыя пагадненні з рэспублікамі, ачагамі канфліктаў і бежанства. Умовы для гэтага Беларусь ужо стварыла, прыняўшы Закон аб нацыянальных меншасцях, дзе дала заруку гарантаваць ім усемагчымыя правы на сваёй тэрыторыі. Чаму не запрасіць да гэтага тыя рэспублікі, грамадзянамі каторых з'яўляюцца нашы людзі? Паглядзіце, які парадокс: землякоў мы не можам прыняць, а 420 эмігрантаў-армян і 60 азербайджанцаў прынялі і маем цяпер крымінагеннае асяроддзе: гэтыя людзі плюс іх сувязі ў сваіх рэспубліках, плюс бізнес, доступ да прыватызацыі, карупцыя, органы кіравання ў стадыі паралічу... Чаму не заключыць з некаторымі рэспублікамі дамову, накшталт той, якую падпісалі Латвія і Расія? Напрыклад, дзве сотні суайчыннікаў-беларусаў просяцца пераехаць на Бацькаўшчыну з Эстоніі. Чаму не мець з гэтай дзяржавай дагавора, па якому яна, не здолеўшы забяспечыць нармальнымі варункамі жыцця і працы нашых суайчыннікаў, пабудуе для іх жыллё на Беларусі?

Апроч таго, калі мы ўзяліся будаваць прававую дэмакратычную дзяржаву, якая павінна стаяць на службе і варце запатрабаванняў чалавека, а не наадварот, то даўно пара далучацца да міжнароднай практыкі. А між тым ні адна з краін СНД не ратыфікавала Міжнародную канвенцыю аб статусе бежанца, прынятую ў 1951 годзе. Праект дамовы паміж членамі Садружнасці аб статусе быў парафіраваны яшчэ ў жніўні 1992 года, але да гэтае пары намі не прыняты.

— Уладзімір Якаўлевіч, вы засяродзіліся на некаторых момантах адно іміграцыйнай палітыкі ў сэнсе бежанства, аднак не менш важнай з'яўляецца і эміграцыйная праблематыка, скажам, працоўнай эміграцыі, уцечка інтэлекту за мяжу. Тым больш, што Закон аб уездзе-выездзе ўжо прыняты, і многія наважыліся пакаваць чамаданы.

— На гэту тэму можна доўга гаварыць. Возьмем хоць бы экспарт рабочай сілы за рубеж. Шмат якія дзяржавы свету садзейнічаюць гэтай з'яве, не выпускаючы яе з-пад кантролю. Працоўная (сезонная) эміграцыя вырашае і пытанні занятасці, і павелічэння колькасці рабочых месцаў унутры дзяржавы, прыносіць прыбытак і мігранту-працаўніку, і ёй самой, павышае кваліфікацыю рабочых праз далучэнне і асваенне імі сучасных заходніх тэхналогій. У свой час Югаславія атрымлівала ад такога экспарту мільярды долараў, прыйшоўшы да цывілізаванага вырашэння праблемы праз 25 гадоў! У нас няма столькі часу. І гэты накірунак міграцыйнай палітыкі аддадзены на самацёк, пад уладу дзялкоў, рэкета, некаторых карумпіраваных служачых. Ён — зняважа беларускай нацыі. Няма сакрэту: замежныя кантракты прадаюцца, ідзе бессаромны наём маладых жанчын для работы прастытуткамі ў іншаземных прытонах.

Дарэчы, якраз у кантэксце сезоннай працы за мяжой успомнілі і пра нас і надзялілі службу міграцыі функцыяй выдачы ліцэнзій на вярбоўку рабочых рук для замежжа. Там, пераважна ў Польшчы, працуюць 18—20 тысяч грамадзян Беларусі. У нас атрымалі ліцэнзіі 5—6 прадпрымальніцкіх структур. А прачытайце аб'явы ў газетах — мноства розных кантор незаконна вярбуе людзей. І што робяць? Выдаюць чалавеку запрашэнне альбо турыстычную пуцёўку, а далей — і трава не расці. Па сутнасці, здаюць мігранта-працаўніка на ласку наймальніка. А павінны забяспечыць кантрактам, які быў бы падпісаны замежным контрпартнёрам і завізіраваны Дзяржаўнай службай міграцыі Беларусі. А прадстаўнік службы, на добры лад, павінен сачыць за правільным выкананнем кантракта і той яго часткі, якая тычыцца сацыяльнай аховы і якая не цікавіць прадпрымальнікаў. Я магу прывесці шмат прыкладаў ашуканства на гэтай глебе, але што яны зменяць?!

А выкарыстанне замежнай працоўнай сілы ў рэспубліцы? На нашай тэрыторыі знаходзяцца 1,5 тысячы в'етнамцаў. Раней працавалі, цяпер растварыліся ў мафіёзных кланах. Іх цяжка знайсці. Немагчыма адправіць дахаты, надта дарага. Каму аб тым галава баліць? Ды і чаму толькі працоўнай сілы? Нават найбольш развітыя краіны Захаду робяць усё магчымае і немагчымае, каб прыцягнуць замежны інтэлект. І мы маем спецыялістаў-перасяленцаў высокай кваліфікацыі, ды нікому да іх няма справы... Ведаеце, я змогся ставіць гэтыя пытанні, тлумачыць, даказваць. Гэта — крык душы. Уся наша служба ў Мінску складаецца з двух чалавек... У абласных выканкомах працуюць па пяць. І калі дзяржава не дае патрэбных сродкаў, дык трэба нешта рабіць на грамадскіх пачатках. Плануем заснаваць грамадскі фонд дапамогі бежанцам. Тых, хто жадае прыняць удзел у яго фарміраванні і дзейнасці, запрашаем звяртацца на адрас: **Мінск, пр. Машэрава, 23, пакой 818.**

...Сумна, але чарговы раз прыходзіцца прызнаваць, што пытанне нашай рубрыкі па-ранейшаму стаіць ў парадку дня. І пагражае стаць рытарычным. А сам пытальнік робіцца ўсё больш тлустым і злавесным. Ну якую параду даць нашым суродзічам, хто раптам з законапаслухмяных грамадзян экс-СССР ператварыўся ў бяспраўных бежанцаў, мігрантаў, ізгояў? Ісці ў службу міграцыі, якая сама існуе дзеля адчэпнага, на птушыных правах, і прасіць разумення? Дык хто ж абароніць замежнага суайчынніка?

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

# БОГ АБ'ЯДНОЎВАЕ. РАЗ'ЯДНОЎВАЮЦЦА САМІ ЛЮДЗІ

**У ПАЧАТКУ ЛІСТАПАДА АДБЫЎСЯ СОЙМ ЗАДЗІНОЧАННЯ КАТАЛІЦКАЙ МОЛАДЗІ БЕЛАРУСІ**

ГЭТАЯ арганізацыя (ЗКМБ) узнікла як структура Беларускай каталіцкай грамады. Згуртаванне зарэгістравана гарадскімі ўладамі. Ва ўстаноўчых дакументах арганізацыі напісана, што гэта культурна-асветніцкае згуртаванне, якое яднае моладзь каталіцкага веравызнання. Узначальвае яго Эдвард Тарлецкі. Пра задачы і мэты арганізацыі мне расказаў намеснік старшыні Юрый Быкаў. Галоўную задачу ён бачыць у пашырэнні хрысціянства ва ўсіх галінах жыцця. Менавіта хрысціянства, а не каталіцызму, таму што ў Згуртаванні каталіцкай моладзі Беларусі лічаць магчымым удзел у працы задзіночання прадстаўнікоў іншых рэлігійных канфесій: праваслаўных, пратэстантаў. Ужо зараз сярод сяброў арганізацыі (дарэчы, членства ў ёй нефіксаванае) ёсць грэка-католікі (уніяты, іначай).

Задзіночанне каталіцкай моладзі Беларусі — арганізацыя свецкая. Але гэта не значыць, што святары не могуць браць удзел у яе дзейнасці. Праца ж будзе заключацца ў дапамозе старым людзям, распаўсюджванні літаратуры, катэхізацыі дзяцей і дарослых, доглядзе магілак па прыходах, працы ў летніках на рэстаўрацыі храмаў. Дарэчы, Грамада ўжо рэстаўрыруе касцёл у Заслаўі. Наступнай задачай задзіночання і з'яўляецца праца па адраджэнню касцёла на Беларусі. Тут Юрый Быкаў падкрэсліў, што адраджаць ёсць што. На Беларусі былі касцёлы, дзе набажэнствы вяліся на беларускай мове. На ёй жа выдавалася літаратура. Пра іншыя задачы арганізацыі напісана ў заяве яе сходу так: «Стан сучаснага грамадства... адсутнасць упэўненасці ў будучыні вымушаюць моладзь шукаць новыя духоўныя ідэалы. Наша мэта — дапамагчы маладым людзям у пошуках ісціны. Таму нашыя намаганні мы скіроўваем на асабістае духоўнае ўдасканаленне сяброў ЗКМБ, пашырэнне сярод іншых людзей Евангелля...»

Апекуном арганізацыі абраны святы Андрэй Баболя. Ён быў кананізаваны за сілу сваёй веры. І за тое, што ў складаныя часы не пакінуў сваю парафію ў мястэчку Янова пад Пінскам. Было гэта ў другой палове XVII стагоддзя.

Кіраўніцтва Задзіночання каталіцкай моладзі плануе арганізацыю I Усебеларускага фэсту моладзі ў Пінску і магчыма пілігрымку ў Янова. Задзіночанне мае намер выдаваць часопіс «Рыцар беззаганны». Часопіс гэты выходзіць у многіх краінах на англійскай, польскай, французскай мовах. Як асноўны, ён выдаецца на польскай мове і мае назву «Rycerz Niepokalanej». Задзіночанне ўжо атрымала згоду галоўнага рэдактара часопіса на выданне яго ў Беларусі (на беларускай мове). Спачатку большая частка артыкулаў з'явіцца як пераклад, аднак будуць і некаторыя свае матэрыялы.

Кіраўнікі згуртавання мараць і пра сваю газету, радыёпраграму для дзяцей. Пакуль гэта толькі надзеі, бо згуртаванне робіць свае першыя крокі. У бліжэйшы час з мэтай «абуджэння і развіцця хрысціянскіх пачуццяў у дзяцей» плануецца правесці першы ўсебеларускі конкурс дзіцячага малюнка «Бог — мой сябра». Ужо падрыхтаваны аб'явы. Справа за тым, каб давесці іх да ўдзельнікаў конкурсу (адна аб'ява каштуе больш 10 тысяч рублёў, што нямала для пачынаючай арганізацыі).

Апошнім прадметам маёй гутаркі з Юрыем Быкавым была праблема канфрантацыі рэлігійных канфесій. Вось што ён сказаў на гэты конт:

— Мы не супрацьпастаўляем наша задзіночанне нікім іншым арганізацыям, а каталіцызм — іншым канфесіям. Доказ таму — запісанае ў дакументах, прынятых на сойме, імкненне праводзіць экуменічную дзейнасць, гэта значыць наладжванне добрых адносін паміж прадстаўнікамі розных канфесій. Сёння часта атаясамліваюць каталіцызм і ўплыў Польшчы. Уплыў існуе. Але ж не трэба забывацца на тое, што каталіцызм не толькі польская з'ява, ён быў распаўсюджаны і на Беларусі. Мы падтрымліваем лозунг Беларускай каталіцкай грамады: «Хрыстос, Касцёл і Бацькаўшчына». Наша радзіма — Беларусь. Аднак гэта не значыць, што мы сілай будзем прымушаць людзей у нашым задзіночанні размаўляць толькі на беларускай мове, толькі на ёй маліцца. Яе трэба ўводзіць у зносіны далікатна, як яна таго заслугоўвае, паступова. І калі людзі будуць звяртацца да Бога на рускай, польскай мовах, тут я не бачу нічога грэшнага. Тым больш усім вядома, што існуе рэлігійная літаратура на польскай мове, якой на беларускай проста няма. Паўтараю, наша задзіночанне — не супрацьпастаўленне іншым суполкам. Мы гатовы да супрацоўніцтва з хрысціянскімі арганізацыямі ў нашай рэспубліцы. Мы б вельмі хацелі наладзіць сувязь і з католікамі за межамі нашай краіны.

У цывілізаваным грамадстве не можа існаваць адна дзяржаўная рэлігія. Людзі маюць права выбраць, у што ім верыць. А тыя, хто верыць, — данесці сваю веру да астатніх. Галоўнае, каб гэта не выклікала варожасці адных людзей да другіх. Бог здольны аб'яднаць. А раз'ядноўваюцца людзі. Сёння Задзіночанне каталіцкай моладзі Беларусі абвясціла сябе арганізацыяй людзей, якія ідуць да Хрыста. Таму галоўнае ў дзейнасці ЗКМБ будзе талерантнасць, цярпенне, павага, а не заклікі да канфрантацыі ці то на рэлігійнай, ці на нацыянальнай глебе.

**Алена СПАСЮК.**

### МОВА—ЗДАБЫТАК НАЦЫІ АД АДАМА І ЕВЫ ДА НАШЫХ ДЗЁН

# АСНОВА ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

БЕЛАРУСЬ стала суверэннай краінай. Сэрцы беларусаў напоўнены радасцю і трывогай. Радуемся моцы і сіле незваротнага працэсу нацыянальнага Адраджэньня. Трывожна таму, што апошнім часам нядобразычліўцы беларускага Адраджэньня настойліва прапагандуюць варожую ідэю так званага дзяржаўнага двухмоўя, робяць нападкі на Закон аб мовах, патрабуюць рэвізаваць яго. Абудзіліся імперскія і калабарацыяністкія сілы, якія, абапіраючыся на наш нацыянальны нігілізм, духоўную абыякавасць, ставяць адкрыта свае рэакцыйныя мэты: спыніць і задушыць нацыянальнае Адраджэньне беларусаў.

Адраджэньне адносіцца да самых злабадзённых праблем, якія патрабуюць свайго неадкладнага вырашэння і закранаюць свядомасць і нацыянальныя пачуцці беларусаў: захаванне і развіццё нацыянальнай беларускай культуры, роднай мовы, звычаяў, укладу беларускага жыцця, адраджэння гістарычнай і культурнай спадчыны. Паўторым агульнавядомае, але святое для кожнага народа свету: мова — душа народа, мова — аснова культуры, мова — аснова светапогляду. Якой бы адукаванасці чалавек ні быў, нават самай высокай, але калі ён не карыстаецца роднамоўным сродкам камунікацыі, не думае і не адчувае сэрцам і ўнутраным голасам сябе і акружаючае асяроддзе на роднай мове, ён не ўспрымае праблемы нацыі, свае прафесійныя праблемы ў суладдзі з гістарычнай ментальнасцю нацыі, да якой ён належыць. Таму абарона, шанаванне, развіццё нацыянальнай мовы з'яўляецца першым абавязкам урада. Зыходзячы з рэальнай сітуацыі на Беларусі, адраджэнне нацыі, выхаванне яе ў адпаведнасці з нормамі агульначалавечага развіцця ў роднамоўным асяродку павінна стаяць на першым месцы.

Да першых асобаў дзяржавы, як носьбітаў улады, кіраўнікоў усіх рангаў дзяржаўнай структуры павінны быць прад'яўлены агульначалавечыя патрабаванні: быць здольнымі ўспрымаць і разумець нацыянальныя праблемы, бачыць шляхі іх вырашэння і быць здольнымі прыцягнуць усіх разумных людзей да практычнага паспяховага вырашэння гэтых праблем. Дзяржаўныя служачыя на дзяржаўнай службе абавязаны карыстацца дзяржаўнай мовай, інакш — што ж гэта за дзяржаўныя служачыя нацыянальнай дзяржавы? Лаяльны грамадзянін дзяржавы які не ведае дзяржаўнай мовы,— абсурд, магчымы хіба толькі ў нас.

Старшыня Вярхоўнага Савета, Старшыня Савета Міністраў, міністры не маюць юрыдычнага права (яны з'яўляюцца носьбітамі і выканаўцамі Канстытуцыі і іншых законаў), не маюць маральнага права пры выкананні дзяржаўных функцый не карыстацца дзяржаўнай мовай. Процілеглае — гэта знявага Канстытуцыі, нацыі. Калі кіраўнік гэтага рангу не валодае або не карыстаецца дзяржаўнай мовай і выступае як дзяржаўная асоба па тэлебачанні, радыё і гаворыць не на дзяржаўнай мове, то трэба рабіць прыглушэнне і даваць дыктарскі пераклад на дзяржаўнай мове. У такой сітуацыі такім чынам паступаюць ва ўсіх краінах, у тым ліку так рабілася ў былым СССР.

Дзяржаўная мова — гэта абавязковы рыштунак для чалавека на дзяржаўнай службе. Дзяржаўны служачы павінен працаваць у асяроддзі дзяржаўнай мовы — гэта канстытуцыйны абавязак. Сучасныя служачыя ў большасці сваёй засталіся «абразаванцамі» і не пайшлі далей у сваім развіцці. Яны не ўспрымаюць дзяржаўную мову і таму ўсё робяць, каб яе зняважыць і замяніць замежнай. Вось адкуль вырастае гадзюка дзяржаўнага двухмоўя.

Клішэ «дзяржаўнае двухмоўе» — гэта антынавуковая, антынацыянальная тэорыя для дзяржавы монанацыянальнай. Па перапісу насельніцтва Беларусь монабеларуская. Усім добра вядома, што пад уплывам русіфікацыі і асіміляцыі значная частка беларусаў запісвалася рускімі. Па меры нацыянальнага абуджэння, росту самасвядомасці гэтыя людзі юрыдычна далучацца да свайго народа. Гэта аб'ектыўны працэс. Беларусам, якія ў гады асіміляцыі запісаліся рускімі або палякамі, праз асветніцтва трэба дапамагчы павысіць нацыянальную свядомасць. Магчыма яны і зменяць свой светапогляд. Па звестках пасла Беларусі ў Ізраілі, нягледзячы на масавы ад'езд яўрэяў на сваю радзіму з Беларусі, іх колькасць на Беларусі не змяншаецца, а павялічваецца. І ў гэтага народа пайшоў працэс вяртання да нацыянальнага. Вывад: клішэ дзяржаўнага двухмоўя, патрабаванне двухмоўя, ад каго б яно ні зыходзіла, ёсць асіміляцыя, імперская палітыка. Гэтая палітыка вядзе да расколу нацыі, яе знішчэння. Як сказаў лідэр нацыянальнага Адраджэньня Беларусі Зянон Пазьняк, толькі самазабойцы і забойцы могуць патрабаваць двухмоўя. Дзве мовы для аднаго народа — гэта поўны абсурд. Двухмоўе прыніжае, зневажае нацыянальную мову ў параўнанні з іншымі (рускай). Нацыянальнай мовай распараджаецца яе носьбіт — нацыя, і ніхто не мае права аніякімі законамі гэта парушыць. Мова — гэта здабытак нацыі ад Адама і Евы да нашых дзён.

Вельмі небяспечная прапанова камуністаў аб рэферэндуме: «ці можна абысціся адной дзяржаўнай мовай?», з якой выступае дэпутацкае аб'яднанне «Беларусь» у Вярхоўным Савеце. З улікам стану нацыянальнай свядомасці такое пытанне амаральнае, антыгуманнае, антыпедагагічнае. Ці маральна, напрыклад, пытаць у дзіцяці, «ці трэба любіць маці?». Сама пастаноўка такога пытання нясе ў сэрца, што маці, аказваецца, можна і не любіць. Навука педагогіка забараняе ставіць вучню амаральнае пытанне.

Адным з асноўных падмуркаў нацыянальнага Адраджэньня з'яўляецца беларуская школа. Але ў сучасны момант беларуская школа знаходзіцца ў стане моўнай і духоўнай рэзервацыі. Вучэбны працэс беларускамоўнага навучання і выхавання знаходзіцца пад жалезным рускамоўным панцырам. Аснову чужароднага панцыру для нацыянальнага Адраджэньня, функцыянавання сістэмы выхавання і навучання на дзяржаўнай мове ўтвараюць, па-першае, рускамоўныя дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, па-другое, як ні цяжка гаварыць, але трэба,—гэта інтэлігенцыя ва ўсіх сферах жыццядзейнасці грамадства. Наша інтэлігенцыя атрымала сямейнае, грамадскае і дзяржаўнае выхаванне і адукацыю, якія былі скіраваны супраць фармавання нацыянальнай свядомасці. У імперыі зла іншага і не магло быць. У гэтым не віна наша, а бяда. Толькі праз адукацыю, паўсядзённую працу над сабой, праз родную мову можна змяніць светапогляд.

Назіранні за працэсамі Адраджэньня паказваюць, што людзі на Беларусі ніколі не парывалі сваіх нацыянальных каранёў. Нас проста мэтанакіравана аглушала заідэалагізаваная, антынацыянальная пабойня. Людзі цягнуцца, хай не свядома, са страхам, да ідэі нацыянальнага Адраджэньня, да роднай мовы. Ім цяжка. Ім патрэбна дапамога. Асветніцтвам, выхаваннем нацыі заўсёды займалася інтэлігенцыя — гонар кожнай краіны. Справядлівасць патрабуе сказаць наступнае. Як гэта ні парадаксальна, алагічна, але менавіта наша інтэлігенцыя, наша надзея і генератар Адраджэньня, будучыні, у большай сваёй частцы аказалася нігілістычнай, інертнай, а ў нейкай частцы, нават варожай да нацыянальнага Адраджэньня.

У ВНУ ў адпаведнасці з Законам аб мовах і адукацыі ўведзены ўступныя экзамены па беларускай мове. Гэта натуральна, і гэтаму трэба радавацца. Але асобныя, хочацца верыць, што менавіта асобныя факты выклікаюць непаразуменне і патрабуюць з боку Міністэрства адукацыі і грамадскасці пільнай увагі. Напрыклад, як нам стала вядома, у Мінскім інстытуце замежных моваў для абітурыентаў іспанскай мовы далі дыктант па беларускай мове вельмі складаны, са зборніка дыктантаў павышанай складанасці для філалагічных факультэтаў. І медалісты беларускай нацыянальнасці былі адсеяны. Пад лозунгам пашырэння ўжытку беларускай мовы праводзіцца антынацыянальная, антыпедагагічная дзейнасць. Беларускай мовай на Беларусі «рэжуць» беларусаў, а тыя абітурыенты, якія не вывучалі мовы або прыехалі паступаць з іншых рэспублік СНД, маюць перавагу, бо не здаюць экзамен па беларускай мове. Вось якое страшнае сіта для адсейвання беларусаў ад вышэйшай адукацыі.

У вышэйшых навучальных установах зрухі да нацыянальнага Адраджэньня таксама мізэрныя. Кіруючы корпус ВНУ ў сваёй аснове, за нявялікім выключэннем, не ўспрымае Закона аб мовах. На вялікі жаль, кіруючыя пасады займаюць немаладыя людзі. Яны сфармавалі свой светапогляд у вядомы гістарычны час. Па розных прычынах адны не хочуць, іншыя не могуць яго змяніць. Для гэтага трэба індывідуальная вучоба, праца над сабой. Нагадаем статыстыку па гораду Мінску: на кіруючых пасадах толькі 8 працэнтаў беларусаў, а на вытворчасці—80. Лічбы і красамоўныя, і трагічныя.

Студэнцтва станоўча прымае пераход навучальнага працэсу на дзяржаўную мову. Галоўны хвалярэз, аб які разбіваецца рух за нацыянальнае Адраджэньне ў ВНУ,— гэта выкладчыкі (прафесары, дацэнты, асістэнты), а таксама іх кіраўніцтва. Яны не хочуць дадатковай працы ў імя пачэснай ідэі пабудовы беларускай вышэйшай школы як па зместу, так і па духу. Але і гэтых людзей можна абудзіць пры дапамозе дзяржаўнай палітыкі. Важную ролю тут павінна адыграць мэтанакіраваная сістэма павышэння кваліфікацыі і атэстацыі выкладчыкаў. Пакуль не запрацуе вышэйшая школа на нацыянальнай мове, сярэдняя школа таксама будзе буксаваць.

Ганебныя адносіны да беларускай нацыі, яе культуры, мовы, гісторыі з боку агрэсіўных сілаў ва ўмовах нігілізму і духоўнай абыякавасці грамадзян падрываюць міжнародны аўтарытэт Рэспублікі Беларусь, азмрочваюць інтэлектуальныя і духоўныя перспектывы маладога пакалення, якое пачынае далучацца да глыбінных вытокаў роднай мовы, гісторыі, культуры і неўзабаве заявіць пра сябе як свядомая беларуская моладзь, за якой будучыня ў духоўным Адраджэньні.

Беларусы, скажам сабе: няхай наша гістарычная ідэя нацыянальнага Адраджэньня і пабудовы незалежнай дзяржавы Беларусь дае нам сілы і аб'ядвае нас у змаганні за босканосныя ідэі ў барацьбе з гістарычнай рэакцыяй, палітыкай асіміляцыі. З верай у гэта жыве Беларусь!

**Мікола САВІЦКІ,**
**прафесар, старшыня Мінскай гарадской Рады ТБМ імя Ф. Скарыны.**

### НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

## ВЛАСТ (ПЕРШАЕ НАБЛІЖЭННЕ)

*О, Крыўская зямля!*
*О, волатаў нашчадкі!..*

В. ЛАСТОЎСКІ.

*Зараз*
*Амаль кожны дзень*
*Вяртаюцца ў свой Пантэон Беларусі*
*Васкрослыя цені герояў...*

М. ТАНК.

Сярод высокіх імёнаў, вернутых Часам нашай гісторыі і культуры, — Вацлаў Ластоўскі. Калі я вырашыў пазнаёміцца з яго жыццяпісам, высветлілася, што зрабіць гэта не так і лёгка. У нас імя Ластоўскага ўспаміналася зрэдзьчасу толькі хіба ў адмоўным сэнсе, каб лішні раз аблаяць. Дзе можна, стараліся выкінуць зусім. Славуты верш Багдановіча «Ліст Ластоўскаму» (адчуваецца, адрасат натхніў паэта на вельмі высокія думкі) ператварыўся проста ў «Ліст...», але ў самім тэксце характэрнае імя аставалася (відаць, усё ж праўду гавораць — з песні слова не выкінеш):



**Хоць значыць гэтае несць у Афіны совы,**
**Усё ж такі пішу да вас, Вацлаве, словы**
**Нясмелага ліста.**

Зазірнуў я і ў эміграцкую прэсу. Там таксама было нягуста — даволі павярхоўныя юбілейныя артыкулы. Усё ж такі па кропельцы, па каліўку сабраўся матэрыял для першага знаёмства.

Перадусім здзівіла шматграннасць інтарэсаў і дзейнасці, нязбыўная энергія. На ўсё яго хапала, усюды сказаў важкае слова. Вядомы гісторык, таленавіты публіцыст, адметны пісьменнік, літаратуразнавец. А яшчэ кнігазнавец, лексікограф, журналіст, грамадска-палітычны дзеяч, арганізатар навукі. Усяго так многа — можа што я незнарок і прапусціў.

Дзеяч Нашаніўскай Пары (хочацца вылучыць гэтую эпоху вялікімі літарамі), ён належаў да таго пакалення волатаў, што вырвалі Беларусь з гістарычнага небыцця і ўзнялі на сваіх плячах, да пакалення Купалы і Коласа — ён амаль іхні равеснік. Нарадзіўся 20 кастрычніка (1 лістапада) 1883 года ў былым засценку Калеснікі Дзісенскага павета Віленскай губерні. Цяпер гэта Міёрскі раён Віцебскай вобласці. Бацькі Юсцін і Ганна Ластоўскія (гэтае прозвішча сустракаецца і сярод удзельнікаў паўстання Каліноўскага) паходзілі з дробнай беззямельнай шляхты, усё жыццё рвалі жылы на арандаванай зямлі. «Мой бацька — земляроб, дзед — каваль, а прадзед — бортнік», — вызначаў Вацлаў Юсцінавіч свой радавод (Пісьмо да А. Багдановіча 22.5.1934. Ін-т л-ры АН Беларусі).

Закончанай адукацыі Вацлаву атрымаць не ўдалося. Першай граматай авалодаў дома. Скончыў на радзіме Пагосцкую пачатковую школу. Ёсць звесткі,

(Заканчэнне на 7-й стар.).

# SKARYNA, HERALDRY AND THE CABALA

Loth as I am to interrupt the fantastical pirouettes and gavottes being danced by the imagination of the public around the symtolica of Francis Skaryna, — no doubt just as the great man intended, — may I be permitted to remind your readers that most of the emblems in his **Библиа руская** appear deployed on shields or flags of arms. This seems to signify that they are linked to the art, science and law of heraldry, which is governed by a body of rules and usages extending back to the Middle Ages, and not be the ferment of popular imagination [Municipal heraldic commissions, please note!].

As I have related in my article, "The allegorical heraldry of Francis Skaryna" (London 1992), the Title page of the **Библиа руская** makes up what is in effet a *cabinet d'armes,* containing the arms of those concerned with the publication of the work: at the top, in the foremost position, a blank escutcheon, representing the author, Jehovah himself, whose attributes as a Divine spirit cannot of course be confined in an emblem.

Below appear two shields equally placed in importance and rank, and marshalled in accordance with the rules of Belarusian heraldry to indicate a partnership. These represent the joint publishers of the work, Francis Skaryna and his mysterious associate ♁. Skaryna is known to have adopted as his emblem the sun and the moon for reasons I shall presently explain. The other emblem according to the 18th century Jesuit heraldist Kaspar Niesiecki belongs to a group of Belarusian armorial ciphers classified by him as key or anchor *symbols.* Of the "T" element, which he recognises, he writes "moze jest tajna, tajemnica, tajnica, secretum" (cf. K. Niesiecki, "Herby Litewskie", Herbarz Polski., Leipzig 1839—1846, Tom I, p. 567, n. 1). In this symbol therefore may lie the key to one or perhaps even several mysteries.

Turning now to the most heraldically significant of all Skaryna's engravings, the March of the Twelve Tribes of Israel in the Book of Numbers, we observe twelve groups of marching men, each led by a flag of arms. Each flag bears a symbol which is not the traditional Hebrew emblem of each tribe as described in Israel's Blessing of his twelve sons (cf. Book of Genesis, Ch. 49, vv. 3-33). In the vanguard, next to a banner bearing an "X", used by Skaryna as the symbol of the Holy Cross, the Battle flag of the Grand Duchy of Lithuania *(argent, a Cross gules* in heraldic terms), we note his sun and moon emblem, and moving clockwise, the much debated "key" cipher of his putative partner.





"Serpent-women" and "averse Seraphin in the form of serpents" as described in the ZOHAR, or Book of Splendour supposedly compiled by Rabbi Moses de Leon (XIIth century). Already coloured by Christian influences, the ZOHAR attracted many Christian scholars who saw in it links with the Gospels.

Cabalistic Serpent-women and averse Seraphs of the ZOHAR

Now there was in Belarusian heraldic usage no absolute rule as to whether a cipher should necessarily be shown in an upright position, it could be and not infrequently was displayed inclined or even reversed (Г. Стіхаў, "Сфрагістыка", БелСЭ, Том X, бб. 142-143). To open any *secretum* one must unlock it by turning the key. If the key emblem on the vanguard banner in the March engraving is turned round in this way for 180°, the cipher takes on a remarkable ressemblance to a sailing vessel, which in the Hebrew tradition (Cabala) was the emblem of the Tribe of Zebulon. Now Zebulon in that same tradition was the *close* brother of Isakhar, (ISAKHAR is a near anagram of the name SKARINA — H in Latin script being very close in shape to N), who according to the Jewish rabbinical interpretations, was a renowned scholar and learned judge. Both were merchants, Isakhar by land and Zebulon by sea, and Isakhar was able, thanks to his brother's material support, to devote all his time to the study of the Jewish Scriptures or Torah. In Israel's *blessing* the emblem of Isakhar was a strong-boned donkey carrying a burden, later symbolised as the scrolls of the Law. But *as his* tribe was skilled in astronomy and in predicting times and seasons, the Midrash Rabbah tells us: "There were distinguishing signs for every Prince [of the Tribes of Israel — GP].....Isakhar's was a sapphire, and the colour of his flag was black like stibium, and embroidered thereon was the sun and the moon, in allusion to the text: 'And of the children of Isakhar, men that had understanding of the times'" (Midrash Rabbah, Numbers, II. 7., Edn London 1951, p. 29).

Tracing back the banners from the key-emblem of Zebulon to the leader of the vanguard Judah, the reader is now able to follow the Biblical order of the March and match up Skaryna's emblems with the Tribal characteristics of the military leaders they represent. And in a contemporary Belarusian or Grand Ducal context the emblems appear to belong to Princes or magnates who attended the Congress of Vienna in 1515, convened to settle dynastic disputes between Christian rulerrin order to consolidate an alliance against the menace of Tatar and Turkish expansionism. In the van, — the principal War Lord, Sigismund the Elder, whose Hebrew emblem was the Lion of Judah, but as a Christian Prince, the Holy Cross; next, moving clockwise, **Isakhar** — Skaryna's banner of the sun and the moon; then **Zebulon,** on his banner a ship; **Reuben** — Maximilian "the excellency of dignity" in Israels blessing, a double headed Imperial eagle; **Simeon** — Stanislau Hastold, the Abdank "W" emblem; **Gad** — Stanislau z Chodza, the rose emblem of Poraj. Reverting to the van of the March and moving anti-clockwise one finds — **Dan,** with as a symbol the crown of Hans and Christian, successively kings of Denmark and Sweden, whom Skaryna served as Secretary; **Asher** — Kanstancin Astrozski's Leliva-Ahoncyk star, moon and arrow; **Nephtall** — Hlinski or Meleska(?), the Korcak three ingots; **Ephraim** — Stanislas Zamojski, the Jelita escarbuncle; **Menasseh** — Abraham Josifovic, a convert Jew and Grand Ducal Chancellor of the Exchequer, the Star of David (Magen Dovid); Benjamin — Jury Radzivil, Litouski Hercules the "ravening wolf", three horns displayed as the Triskele of the Vouk group.

There remains the problem of the Cross and open gate symbol appearing in the well known portrait engraving on the back of Skaryna's magisterial seat, to which the article in "Звязда" alludes (No. 74, 10 красавіка 1992, б. 2.). Although not classified by Niesiecki, heraldically this cipher belongs to the "tomb" symbols, grouped together by W. Kojalovic as comprising the emblems of the Mahila, Bahdanovic, Bychaviec, Ciechanovic and Sieparod families. Its precise meaning remains a mystery, but it seems to represent an open tomb with its gates ajar and the Cross rising above it in triumph over death. It may also represent the Golden gates of understanding used by Albrecht Duerer in 1512 when he devised his own his coat of arms, and by which Skaryna may have sought to commemorate his artistic and possibly his mystical links with the great Germano-Hungarian engraver (Duerer was also in Vienna in 1515). According to the Judaeo-Christian Cabala, the 31st of the 32 Paths of Wisdom, known as the Path of Perpetual Intelligence (because it ruled the the movements of the sun and the moon, Skaryna's emblem, and was represented by the Hebrew letter SHIN (ש), the sign of the Astral light of God's lamp), led to a golden gate which was the synthesis of all the Gates of Glory; "by this Gate we enter into the Glory of the Holy One".

Skaryna's Prefaces not infrequently allude to the hidden meanings and secrets concealed in the Bible, but the extent of his own knowledge of and interest in the ancient traditions of the Cabala and its "tree of symbolic jewels showing forth the doctrine of the universe as the vesture of the Deity" (Kenneth Rexroth) remains *terra incognita.* It still awaits its explorer.

**Guy Picarda.**

---

## To your attention are offered some of the latest poems of SYARGEI PANIZNIC.

### EDUCATION WITH SOME SPECIALIZATION

I

Let's admit for a moment
that our fathers did find us
in cabbage covered with morning dew
and sent us to the first grade.

This school had a specialization.
But the specialization was of the following kind:
The students were carefree
and attacked thought with ignorant bravery.

What did they have in their heads? Nothing but emptiness!
The enlightenment did not serve them any good:
astray, life made its nests
in their brains.

II. Let's admit for a moment
that our fathers did find us
on this sinful, noisy,
stupefied land,
where rats resemble people
and people resemble the rats,
and where the school will become for everyone
a mystery
and where the class of listening and comprehension
will have to acquire only one and the same specialization:
bending towards the grave,
kneeling in front of those who are still alive.

### POETS

Poets are not immortal:
their lives are not guaranteed.
They are the incurable type
if they are not a servant type.

Was it possible to force Pushkin
and make him serve the Emperor?
the poets are not swings —
they are rather boiling volcanoes.

Unfortunate talents...
Along with their creations
they were chopped with swords
by stinking stalins.

Their wings which ascend them to the sky
are not the wings of a bee...
They are now dead
and I recall their images.

Their love is eternal,
their glory is belated.
The poets are not immortal.
The are a different type of men.

### ON THE THIRD PLANET FROM THE SUN

Your evening met me by the boat.
Your constellations showed me the path.
And the nightingales — they were your devoted servants,
they opened the secret gates.
The dawn found the way through the morning dew again
where the path was all covered with blossoms.
The sun all covered with kisses was ascending the lark's stairway...
This was when your and my misery began:
(you said:)
— Why did I have to hear the words "good-bye"?
How is it possible to say good-bye
to evenings and constellations,
to the gates and nightingales?
Even the sun which is all covered with kisses...
even it comes back
to offer you its biblical cheek
for sweet words of love.
And you....

... How many centuries have to pass since then,
ages that last from morning till night,
so that my grief would lighten here
on the third planet from the sun?

### THE TWO RAYS

What is there for me on this land?
The cheek all covered with kisses!
And sweet laughing children —
my son and daugher.

I don't think of the cold days,
I forget about the deserted road.
These two rays like two wings make my life longer —
they are my daughter and my son.

You are like birds going to the south,
you are like two rivers.
I wish you long, bright, and wide life,
my dear son and daughter.

If you give life to new branches of the tree,
the weaving of fabric of years would go faster...
What is there for me on this land?
My dear daughter and son.

*(Dagmar T. WOLKOTT, USA. Kolumbus).*

---

**Editor of the English page T. BANDARENKA.**

## *ПАДЗЕЯ ГОДА 1992*

# ЗОРНЫ, ВЫСАКОСНЫ



Міжнародны біяграфічны цэнтр у Кембрыджы абраў вядомага беларускага мастака Гаўрылу Вашчанку Чалавекам года. Паведамленне пра гэта Гаўрыла Харытонавіч атрымаў з лістом, які даслаў яму генеральны дырэктар цэнтра Эрнест Кэй. Дарэчы, з Кембрыджа гэта быў не першы ліст. Раней мастаку паведамлялі, што яго імя ўключана ў Міжнародную энцыклапедыю па мастацтву, у выданне «Хто ёсць хто» і энцыклапедыю інтэлектуалаў. Вось такое сапраўды шырокае прызнанне атрымаў наш зямляк. Ці здзівіла яно мастака? Гаўрыла Харытонавіч адказвае:

— Такое пачэснае званне, як Чалавек года, з'явілася для мяне сапраўды нечаканасцю. Мы прывыклі, што атрыманне любой прэміі, звання мае доўгую перадгісторыю — збіраюцца паперы, ідзе конкурс. А тут ліст і факт: ты Чалавек года. Канешне, у Кембрыджы маюць магчымасць атрымліваць і апрацоўваць інфармацыю на больш высокім узроўні, чым пакуль мы. Таму і здзіўляюць яны нас сваёй аператыўнасцю.

— Гаўрыла Харытонавіч, я бачу, што высакосны год, якога многія баяцца і не любяць, быў для вас удалым...

— Так, ён застанецца ў маёй памяці як зорны. Па-першае, я напэўна атрымаю Дыплом аб прызнанні мяне Чалавекам года. Не ведаю, праўда, дзе, калі і як гэта адбудзецца. Потым я ўдзельнічаў у рэспубліканскай выставе «Жыве Беларусь» і стаў яе лаўрэатам за работы ў раздзеле жывапісу. Гэта былі працы «Святыня», «Нараджэнне», «Надзеі».

Канешне, не ўсе гады былі для мастака такімі шчаслівымі. Сёння Гаўрыла Вашчанка — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар Акадэміі мастацтваў і нават Чалавек года. А калісьці ён з Беларусі паехаў у Кіеў. Там скончыў вучылішча прыкладнога мастацтва, потым інстытут прыкладнога і дэкаратыўнага мастацтва ў Львове. Жыў у Малдавіі. І ўсё ў яго там складвалася нядрэнна. Але Гаўрыла Харытонавіч удзячны лёсу, што менавіта там адчуў, што ён беларускі, а не малдаўскі мастак, захацеў вярнуцца дадому, на Беларусь.

— Пішу я кожны дзень, — расказвае пра сябе Гаўрыла Харытонавіч, — мастаку вельмі лёгка згубіць тое, што ён мае — здольнасці. Пра гэта я ўжо 37 гадоў гавару сваім студэнтам. Здольнасць — алмаз, а талент — ужо брыльянт. Над алмазам трэба шмат працаваць, каб знайсці ў ім лепшыя якасці, аздобіць і атрымаць брыльянт. Інакш кажучы, талент — гэта рэалізаваныя здольнасці.

Мяне часта просяць паказаць тое, што я пішу для сябе. Я адказваю, што ўсё жыццё пішу толькі для сябе. Канешне, кожны мастак калісьці працуе на заказ. Тут ужо пытанне ў тым, каб праца заказаная не супярэчыла поглядам, пазіцыі мастака. Калі тое, што вы робіце, не адпавядае вашым думкам, густу, паступова ідзе раздваенне асобы.

Гаўрыла Харытонавіч не ўваходзіць ні ў адну з мастацкіх суполак, таму што, як ён сказаў:

— Я ўжо ў такім узросце, калі можна спяваць і сола.

— Гаўрыла Харытонавіч, ці адрозніваецца сённяшняе мастацтва ад таго, што было раней?

— Канешне. Усе ведаюць, што раней мастак меў адзінага мецэната — дзяржаву. Зараз ім можа быць кожны. Трагедыя мастацтва другой паловы XX стагоддзя ў тым, што ў былыя стагоддзі мецэнатамі была багатая і высокаадукаваная эліта. Яна купляла і творы высокага класа. Мастакам неабходна было цягнуцца да такога ўзроўню, каб іх карціны куплялі. Зараз жа ідзе адваротны працэс. Часта даводзіцца апускацца да ўзроўню пакупніка-мецэната. А ён, як правіла, сёння мае далёка не бліскучую адукацыю, хоць і ёсць у яго магчымасць плаціць вялікія грошы.

— Такія сёння сумныя часы?

— Не, я так не лічу. У нашым жыцці хапае і суму, і радасці. Я ж думаю, што жыццё заўсёды цудоўнае пры любых эканамічных, палітычных складанасцях. Больш таго, па-мойму, сёння яно больш прыгожае і цікавае, чым было ў стабільныя шэрыя часы. Цікава назіраць за тым, як жыццё змяняецца на вачах. Само разуменне таго, што жыццё існуе, што вы жывяце, ёсць цуд.

**Алена ВІКТАРАВА.**

# ГАЛОЎНЫ Ў ТЭАТРЫ— ГЛЯДАЧ

*Дзяржаўны рускі драматычны тэатр Беларусі адзначыў сваё 60-годдзе. Але за апошнія некалькі гадоў у рэспубліцы адбылося больш змен, чым за папярэднія дзесяцігоддзі. Як адчувае сябе тэатр зараз, у новых палітычных (і не толькі) умовах? Як вырашае праблемы, народжаныя новымі абставінамі? Пра гэта — у інтэрв'ю нашага карэспандэнта з галоўным рэжысёрам тэатра Барысам ЛУЦЭНКАМ.*



**— Раней цяжка было нават уявіць сабе, што можа ўзнікнуць сітуацыя, калі нехта задасць пытанне: а навошта нам, беларусам, тэатр, у якім гавораць на рускай мове! Сёння, здаецца, такое магчыма. Што вы адкажаце на такое пытанне!**

— А ведаеце, мне яго ўжо задавалі. І я адказаў, што калі б тут, у Беларусі, існаваў нават англійскі тэатр, я быў бы рады гэтаму. І ўвогуле, чым больш розных і рознамоўных тэатраў — тым лепш. Мы — Рускі тэатр — не толькі знаходзімся ў Беларусі, мы —прыналежнасць беларускага мастацтва, беларускай культуры, беларускай дзяржавы. Між іншым, у Латвіі і пры буржуазнай рэспубліцы існаваў рускі тэатр, яму ўжо больш за сто гадоў, і ніхто не задае пытанне — навошта? А навошта ў Канадзе існуе ўкраінскі тэатр, а ў Англіі — французскі, дзе размаўляюць па-французску? Там ніхто не задае гэтага пытання, проста ёсць людзі, якім гэта патрэбна, — ёсць і тэатр. Так, мы размаўляем на рускай мове, ставім спектаклі рускіх аўтараў, якіх я вельмі люблю — зараз я збіраюся ставіць Дастаеўскага, — у нас у рэпертуары быў і Горкі, і Чэхаў, было многа п'ес беларускіх пісьменнікаў — Адамовіч, Матукоўскі, Быкаў. І пакуль у людзей будзе патрэбнасць у рускім тэатры, мы будзем існаваць і гаварыць на рускай мове. Але мы не супраць беларускай, мы — за разнастайнасць тэатраў і моў. Зедаеце, некалі мы паставілі п'есу Алеся Адамовіча «Вяртанне ў Хатынь», я таксама ўдзельнічаў у стварэнні спектакля, а на другі дзень пасля прэм'еры ў «Советской культуре» з'явіўся артыкул пад назвай «Патрэбна яснасць» некага Шыркоўскага. У гэтым артыкуле мяне абвінавачвалі ў абстрактным гуманізме. Гуманізм, як я высветліў пазней, павінен быў быць партыйным, агульначалавечага гуманізму ў той час не існавала. Але ж не можа быць асобна гуманізму рускага, гуманізму беларускага ці англійскага. Ён ці ёсць, ці яго няма. Гэта таксама ж, як могуць быць рознымі рэлігіі, але ці ёсць Бог у душы, ці не, ці ёсць вера ў сэрцы, ці там пуста і халадна... І дарэчы, дзе б мне ні давялося бываць, я паўсюль прадстаўляюся як беларускі рэжысёр.

**— Ці адчуваеце вы на сабе ціск тых, хто выступае за беларускую мову!**

— Пакуль што не. Як бачыце, пікетаў з плакатамі не бачна, званкоў з пагрозамі не чутна. Я вельмі не хацеў бы, каб узніклі канфлікты ці супрацьстаянне. Дай Бог, каб у тых, хто выступае зараз за адраджэнне нацыянальных пачуццяў. адразу ўсё атрымалася, каб усе хутка і разам пачалі размаўляць на беларускай мове. Я таксама з задавальненнем перайду на гэтую мову...

**— Мне здаецца, што вы не вельмі верыце ў тое, што гэта магчыма зрабіць адразу.**

— Як вам сказаць... Ва ўсякім выпадку, я шчыра жадаю поспеху ў гэтай справе. Крый Божа, пачаць высвятляць адносіны наконт таго, хто на якой мове размаўляе. Не гэта галоўнае. Ды хай мы хоць, як глуханямыя, будзем размаўляць паміж сабой на мове жэстаў, галоўнае. каб людзі разумелі адзін аднаго.

**— А які спектакль сёння вечарам будзе ісці ў вашым тэатры!**

— На 60-годдзе тэатра да нас прыехалі нашы сябры з Кракава, у прыватнасці, вельмі таленавіты рэжысёр Кшыштаф Ясінскі. І сёння будзе вельмі цікавы спектакль у яго пастаноўцы «Вар'ят і манахіні». Акцёры Дарэк Данатоеўскі, і Мая Барэлькоўска-Цырвус будуць іграць разам з нашымі акцёрамі. На сцэне будуць адначасова гучаць і польская, і руская мовы. І што самае галоўнае, я ўпэўнены, што беларусы іх зразумеюць. Я ўчора размаўляў з дырэктарам тэатра імя Янкі Купалы, увогуле, можа адбыцца вельмі цікавы эксперымент: мы думаем стварыць спектакль па «Дзядах» Адама Міцкевіча намаганнямі трох труп — польскай, беларускай і рускай, і тады ў спектаклі адначасова будуць гучаць тры мовы.

**— Што б вы самі пажадалі свайму тэатру ў дзень яго 60-годдзя!**

— Ведаеце, я ж у гэты тэатр вярнуўся зноў, 10 год таму мяне, як хлопчыка, выставілі за дзверы. Мой спектакль «Макбет» паехаў за мяжу без мяне. «Не паедзеш —і ўсё!» — сказалі мне тады... І пасля ўсіх складанасцей, якія давялося перажыць, я пажадаў бы тэатру і сабе толькі аднаго — каб да нас хадзіў глядач. Тое, пра што я мару, адбылося 6 снежня на прэм'еры нашага новага спектакля «Амфітрыон»: ніводнага свабоднага месца, мне сваіх сяброў не было куды пасадзіць. Вельмі хацелася б, каб гэта не было выпадковасцю і аншлаг быў увесь час. Раней мы гаварылі: гледача трэба развярушыць, а сёння глядач змучаны жыццём, ён распяты, яго трэба супакоіць, дапамагчы сабрацца, пагаварыць з ім па-людску. Мы нядаўна былі ў Францыі, у Ніверыі, і трапілі ў банк крэдытаў. Там у нас запыталіся — хто галоўны ў банку?

**— Напэўна, дырэктар!**

— Не, кліент. Хто галоўны ў тэатры? Глядач. У рэшце рэшт ён вызначае поспех ці няўдачу тэатра. А акцёрам я хацеў бы пажадаць майстэрства, прыгажосці, поспеху, здароўя, шчасця. І каб мы ў сваёй дзяржаве — Беларусі — у наступным годзе жылі хаця б трохі лепш, чым зараз...

**Гутарыла Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# НЕВЯДОМАЯ МУЗЫКА



АНСАМБЛЬ САЛІСТАЎ



## *“КЛАСІК – АВАНГАРД“*

З сумам і цікаўнасцю, як вяртання ў маладосць, чакала тэлевізійнай перадачы пра паездку беларускай дэлегацыі ў Падую, дзе на будынку універсітэта сёлета была прымацавана мемарыяльная дошка ў гонар славутага палачаніна Францішка Скарыны.

...А ў пачатку 60-х гадоў мы, група беларусаў, якая падарожнічала па Італіі, пачуўшы пра след, пакінуты Скарынам на гэтай зямлі, асенняй слотнай дарогай накіраваліся з Венецыі ў Падую. У зале Сарака, над кафедрай, з якой выступаў Галілей, убачылі фрэскавы партрэт «Францыск Скарына з Полацка. 1512 год». Зведалі гордасць, што мы таксама беларусы, а таму маем, вядома, касмічна далёкае, але ўсё ж дачыненне да знакамітага суайчынніка, які ў Падуанскім універсітэце атрымаў ступень доктара медыцыны і «паказаў сябе так пахвальна і выдатна ў час гэтага строгага выпрабавання,.. што атрымаў адзінадушнае адабрэнне ўсіх прысутных вучоных без выключэння».

Калі мы вярнуліся ў Мінск, хацелася падзяліцца «сваім адкрыццём Скарыны», але да самой яго постаці не было тады такой глыбокай зацікаўленасці, як сёння. Адно праз некаторы час, здаецца, у часопісе «Беларусь» з'явіўся допіс Алеся Адамовіча пра паездку, дзе згадваўся і партрэт Скарыны.

Сёлета на ўрачыстасці з выпадку адкрыцця мемарыяльнай дошкі беларускаму асветніку Францішку Скарыне ў Падуанскім універсітэце ў Італію накіраваліся міністр замежных спраў рэспублікі П. Краўчанка, дырэктар Навукова-асветніцкага цэнтра імя Скарыны А. Мальдзіс, скульптар У. Янушкевіч, а разам з імі яшчэ не вельмі вядомы, але, бясспрэчна, з вялікай будучыняй — Дзяржаўны ансамбль салістаў «Класік-авангард». Ансамбль прымаў удзел і ў згаданай тэлеперадачы, і музыка, што гучала з экрана, была нязвыклай і пяшчотнай, хвалявала і зачароўвала, пераносячы ў рамантычнае мінулае і павольна вяртаючы ў рэчаіснасць. У гэтай повязі непарыўнасць прошласці і дня сённяшняга, адметнасць і непаўторнасць маладога музычнага калектыву.

У верасні яму споўніўся год, хаця складаецца ансамбль з вопытных і нават славутых музыкантаў. Сёння іх 15, у асноўным выпускнікоў Беларускай кансерваторыі, лаўрэатаў рэспубліканскіх, усесаюзных і міжнародных конкурсаў, аб'яднаных адной ідэяй і любоўю.

— А чаму такая назва — «Класік-авангард»? — спытала я ў мастацкага кіраўніка калектыву кантрабасіста Уладзіміра Байдава.

— Ансамбль па-свойму унікальны. Рэпертуар, якім мы валодаем, пакуль што больш нікому недаступны. У ім і класіка, і авангард, музыка для струнных і для духавых інструментаў. Кожны наш канцэрт — прэм'ера, таму што мы выконваем музыку, якая ніколі не гучала або маўчала, прынамсі, гадоў 200. Беларускія слухачы знаёмыя ўжо са славутым «Полацкім сшыткам», мы адкрылі і падрыхтавалі «Віленскі сшытак». Гэта помнік музычнай культуры прыкладна канца XVI стагоддзя. У ім прадстаўлены многія жанры, што існавалі ў эпоху Адраджэння і набылі агульнаеўрапейскае пашырэнне.

Асветніцтва і прапаганду музыкі мінулых часоў лічым неад'емнай часткай сваёй работы. Ад нас схаваны скарбы, цэлыя пласты невядомых, невыказначароўных мелодый. Мы і расшукваем іх, і выконваем. У рэпертуары «Класік-авангарда» музыка Беларусі XV—XVIII стагоддзяў — Міхал Агінскі, Мацей Радзівіл, Іаган Голанд, Восіп Казлоўскі, Эрнст Ванжура. Мы гэту музыку разумеем як беларускую, бо яна была створана і гучала на беларускай зямлі. З ёю мы выступалі і ў Падуі.

**— Раскажыце, як вас сустрэлі ў Італіі.**

— Выдатна! Па ацэнцы італьянцаў, яны пачулі невядомую ім музыку, выкананую на высокім узроўні. Адбылося некалькі канцэртаў. Першы ў Падуанскім універсітэце пасля ўстанаўлення мемарыяльнай дошкі Францішку Скарыне. Другі — перад прадпрымальнікамі, якія, пачуўшы наша першае выступленне, запрасілі нас даць канцэрт. Водгукі былі самыя захопленыя. «Мы пачулі вытанчаную беларускую музыку, якой раней не ведалі».

У Італіі, на жаль, наогул мала ведалі і ведаюць пра Беларусь. Новая згадка пра славутага беларускага вучонага Францішка Скарыну і унікальны ансамбль, які прадэманстраваў высокі ўзровень сучаснай музычнай беларускай культуры, прыадчынілі перад іншаземцамі акенца ў новую і вельмі старажытную краіну, якая, зноў набыўшы незалежнасць, гатова несці ў шырокі свет сваю культуру, свае шчырыя і чыстыя памкненні.

**Дзіяна ЧАРАПОВІЧ.**

## НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

# ВЛАСТ

## (ПЕРШАЕ НАБЛІЖЭННЕ)

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).

што нейкі час вучыўся ў Дзісенскім павятовым вучылішчы, працаваў хлопчыкам на паслугах у віннай краме ў Вільні, канцылярыстам-пісарчуком у Шаўлях (Шаўляй, Літва). Потым, нібы ў казцы, трапіў у тлумны стольны Пецярбург, уладкаваўся там бібліятэкарам у студэнцкую бібліятэку і адначасова, як успамінаў у адным з аўтабіяграфічных лістоў, «зайцам» наведваў лекцыі ва універсітэце (Дварчанін І. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры. Вільня, 1927, с. 293). Быў чуйны ён і да грамадска-палітычных павеваў эпохі. Дзевятнаццацігадовым юнаком уступіў у Польскую сацыялістычную партыю ў Літве (ППС у Літве), якая праводзіла сваю работу і ў заходняй частцы Беларусі. Неўзабаве ажаніўся з літоўкай Марыяй Іваноўскай (Іванаўскайце, 1872—1957), якая працавала тады ў Пецярбургу швачкай, а рэштку часу прысвячала чытальні польскіх сацыялістаў, дзе, відаць, Вацлаў яе і згледзеў. Парадкам старэйшая за нашага хлопца дзяўчына мела літаратурны талент, выступала ў польскім друку, пазней пісала па-літоўску пад агульным са старэйшай сястрой Соф'яй псеўданімам Лаздзіну Пяледа, досыць у Літве шанаваным. Пасля жаніцьбы Вацлаў жыў то на жончынай радзіме ў Парагяй на поўначы Літвы (цяпер Акмянскі раён), то ў Рызе, дзе здабываў нялёгкую капейчыну самай празаічнай працай канторшчыка на таварнай чыгуначнай станцыі. У 1906 годзе спрабаваў у Рызе здаць экзамены на атэстат сталасці, але, паводле ўласных слоў, «зрэзаўся» з рускай мовы, што прымусіла яго махнуць рукой на ўсе атэстаты і дыпломы і заняцца самаадукацыяй.

У гэты ж час ён, скажам Купалавымі словамі, «паслухаўся сэрца» і далучыўся да беларускага нацыянальнага грамадскага і культурнага руху, захапіўся ідэямі адраджэння роднай культуры. У 1906—1908 гадах уваходзіў у Беларускую сацыялістычную грамаду (БСГ). Яго хутка ацанілі. З вясны 1909 года — ён у Вільні, сакратар рэдакцыі «Нашай нівы» і загадчык першай беларускай кнігарні. Змяшчаў у «Нашай ніве» і іншых беларускіх выданнях шматлікія публіцыстычныя і крытычныя артыкулы, артыкулы пра мінуўшчыну, апавяданні, пазней таксама і вершы. Збіраў і публікаваў матэрыялы па гісторыі беларускай літаратуры (хочацца вылучыць надзвычай багаты на факты артыкул «Памажыця!», 1913), этнаграфічныя і гістарычныя матэрыялы. У 1910 годзе выдаў «Кароткую гісторыю Беларусі» — першую папулярную абагульняючую працу па нацыянальнай гісторыі на беларускай мове. «Гісторыя— гэта фундамент, на каторым будуецца жыццё народа. І нам, каб адбудаваць сваё жыццё, трэба пачаць з фундамента, каб будынак быў моцны», — пранікліва пісаў ён у прадмове.

Ах, Вільня, чарадзейка Вільня, колькі мрояў нашаптала ты нашаму летуценніку! Праз жонку пазнаёміўся з многімі прадстаўнікамі літоўскага культурнага руху, што садзейнічала збліжэнню беларускай і літоўскай інтэлігенцыі. Кватэра Ластоўскіх на вуліцы Завальнай, 7 (цяпер 5, там жа змяшчалася і беларуская кнігарня), стала своеасаблівым клубам, дзе збіраліся беларускія і літоўскія пісьменнікі, у тым ліку Я. Купала, А. Гіра, Цётка, З.Бядуля, Ядвігін Ш. і многія іншыя. Утульна адчувала сябе тут, напрыклад, юная Канстанцыя Буйло і доўга помніла смачную каву з булачкамі, якімі заўсёды частавала яе гасцінная пані Марыя.

Жыццё падаравала Ластоўскаму дружбу з Максімам Багдановічам, яны былі аднадумцамі. Вацлаў актыўна перапісваўся з выдатным паэтам і крытыкам, адарваным ад роднага краю, знаёміў яго з Вільняй падчас прыезду з Яраслаўля ў 1911 годзе, дапамог уклaсці і выдаць знакаміты «Вянок». Багдановіч, у сваю чаргу, высока цаніў Ластоўскага і яго творчасць, як ужо адзначалася, аднойчы прыслаў яму свой цудоўны верш «Ліст Ластоўскаму», напоўнены светлымі думкамі аб мастацтве. (Багдановіч узнімаўся ў ім у такія горнія сферы духа, тут было так многа мудрага і тонкага, што ў нядаўняй сваёй публікацыі «Пяць вершаў для А.» Л. Дранько-Майсюк паэтычна пераасэнсаваў сітуацыю:

**...Не у Вільню — пісаў у Афіны**
**Да Вацлава нясмелы ліст).**

У Максімавай крытычнай спадчыне нямала згадак пра Власта (псеўданім Ластоўскага). Найчасцей гэта захапленне. У артыкуле «За тры гады» (1913) Багдановіч пісаў: «Власт надрукаваў усяго 3—4 рэчы, але кожную можна ўзяць за прыклад, як трэба пісаць» (Багдановіч М. Творы. Мн., 1928. Т. 2. С. 34). Адначасова Багдановіч адзначаў уплыў на Ластоўскага моднага тады мадэрнізму, не дараваў і слабасцей. Працытуем артыкул «Глыбы і слаі» (1911): «Адзін толькі Власт здалеў даць у сваіх абразках нешта цэннае. На жаль, ён іншы раз даволі моцна нагадуе польскіх мадэрністаў (гл. «Мары»), у бытавых жа апавяданнях губіць лепшы бок свайго таленту — сумную паэтычнасць. Але бывае, што на апісаннях нашага шэрага жыцця адбіваецца лірычны пад'ём душы пісьменніка і ўплятае ў вянок нашай літаратуры свежы яркі цвяток» (Тамсама. С. 11).

Вялікі Купала прысвяціў Вацлаву і Марыі Ластоўскім верш «Песня званара» (1909) высокага патрыятычнага гучання, а выхад «Кароткай гісторыі» паэт вітаў вершам «Дудар» (1910). У літаратурных дыскусіях таго часу Ластоўскі заняў адметную эстэтычную пазіцыю, заклікаючы пісьменнікаў не забывацца пра красу жыцця. Крытыкай паслядоўнага рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку (Я. Купала, Л. Гмырак) гэта было расцэнена як спроба прыглушыць сацыяльнае гучанне маладой беларускай літаратуры, хаця цяпер мы бачым у пазіцыі Ластоўскага і пэўную рацыю. Спрэчныя былі некаторыя гістарычныя погляды Ластоўскага, адзначалася, у прыватнасці, што ён недаацэньваў тое агульнае, што было ў паходжанні і гісторыі беларускага і рускага народаў, а часам без пэўных рэальных і навуковых падстаў перабольшваў адрозненні паміж двума братнімі народамі. У нейкай меры гэта можна тлумачыць самой сітуацыяй, тымі задачамі, што стаялі перад Беларуссю. Спашлёмся на аўтарытэт вядомага спецыяліста ў галіне этнагенезу Льва Гумілёва, які адзначаў не так даўно ў «Известиях»: «...самабытнае існаванне этнасу ў тым і заключаецца, што ён адрознівае сябе ад усіх астатніх. Так што супрацьпастаўленне — натуральнае. Трэба толькі, каб яно не ператваралася ў варожасць». Апошняя агаворка вельмі важная, прынцыповая.

...На календары Гісторыі выстройваліся гады — 1914-ты, 1915-ты... Сараеўскі стрэл парушыў хісткую гармонію свету. Паводле слоў паэта, «впервые за сто лет», з часоў Банапарта і Метэрніха, пачала змяняцца «таинственная карта» Еўропы. Наступіла вельмі суровая часіна выпрабаванняў, сацыяльна-палітычных і нацыянальных узрушэнняў, рэвалюцый, сусветнай і грамадзянскай войнаў. Для Ластоўскага гэта быў час напружаных шуканняў, адказных рашэнняў. Выпісваю звесткі пра яго крокі з розных выданняў, якія трапіліся. Пасля акупацыі Вільні кайзераўскімі войскамі (1915) Ластоўскі падтрымліваў праект дзяржаўнай «Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага» (Беларусі і Літвы) у саюзе з Германіяй. У 1915 годзе спрабаваў стварыць партыю «Хрысціянская злучнасць». У 1916 годзе быў адным з аўтараў «Мемарыі прадстаўнікоў Беларусі», у якой даводзіліся правы беларускага народа на нацыянальна-дзяржаўнае развіццё і якая была прадстаўлена на міжнародную канферэнцыю ў Лазане (Швейцарыя). У гэты ж час выдаў шэраг беларускіх школьных падручнікаў і хрэстаматый. У 1916—1917 гадах — рэдактар газеты «Гоман» (своеасаблівы працяг «Нашай нівы»), у 1918 годзе выдаваў у Вільні часопіс «Крывічанін».

Адным з першых зразумеў Ластоўскі ўсё значэнне для беларусаў забытай спадчыны Кастуся Каліноўскага і змясціў у «Гомане» (1916) адпаведны матэрыял пра выдаўца «Мужыцкай праўды» і аўтара «Пісьмаў з-пад шыбеніцы». «Многа гадоў, — пісаў Ластоўскі, — праляжала ў мяне ў скрытнай схоўцы пачка папераў, з каторых адрыўкамі хачу цяпер падзяліцца са сваім грамадзянствам. Паперы гэтыя — ніклая памятка па згінуўшым барцу за беларускае адраджэнне с(вятой) п(амяці) Касьцюку Каліноўскім...» Прыводзіліся біяграфічныя звесткі, публікаваліся другая (верш) і трэцяя часткі «Пісьмаў...» Публікацыя названа вельмі дакладна — «Памяці Справядлівага», — узята ці не самая характэрная рыса вялікага Кастуся. Дарэчы, і ідэя «Канфедэрацыі», сумеснай дзяржавы Літвы і Беларусі, несумненна, была блізкая Каліноўскаму. Але стырно Гісторыі тарганулася ў іншы бок. Перад Беларуссю адкрыліся-заззялі новыя далягляды.

Ластоўскі ўдзельнічаў у гістарычным акце 25 сакавіка 1918 года, калі ў надзвычай складаных і своеасаблівых умовах кайзераўскай акупацыі была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), уваходзіў у яе ўрад. Куды яго толькі ні кідала, дзе толькі ні мільгала на гэтым гістарычным раздарожжы яго прозвішча! У канцы 1918 года ўзначаліў Беларускае прадстаўніцтва пры літоўскай Тарыбе, потым быў беларускім аташэ пры літоўскім пасольстве ў Берліне. Пасля абвяшчэння Савецкай Беларусі (1.1.1919) шукаў у Берліне падтрымкі сваіх палітычных планаў. З 1919 года — у партыі беларускіх эсэраў, са снежня гэтага ж года ўзначальваў Народную раду (эсэраўскую) БНР, якая адмовілася супрацоўнічаць з белапалякамі. Ластоўскі быў кінуты польскімі ўладамі ў астрог. У лютым 1920 года яму дазволілі выехаць у Літву. Знаходзячыся ў эміграцыі, Ластоўскі ўдзельнічаў у арганізацыі ў заходняй частцы Беларусі партызанскага руху супраць белапалякаў. У верасні 1920 года пад уплывам часовага поспеху польскіх войск на Заходнім фронце кіраўніцтва партыі беларускіх эсэраў паспрабавала ўстанавіць кантакт з польскімі ўладамі. Як кіраўнік урада БНР, Ластоўскі афіцыйна звярнуўся да Ю. Пілсудскага з прапановай выступіць аб'яднанымі сіламі супраць Чырвонай Арміі. За гэту паслугу ён патрабаваў стварэння беларускай дзяржавы на федэратыўных пачатках з Польшчай. Пасля падпісання папярэдніх умоў міру паміж савецкімі рэспублікамі і Польшчай (кастрычнік 1920 года) Ластоўскі ў афіцыяльным пасланні мірнай канферэнцыі ў Парыжы прасіў краіны Антанты аказаць дапамогу ўраду БНР «у яго барацьбе за вызваленне Беларусі». Тады ж на беларускай канферэнцыі ў Рызе вакол урада Ластоўскага быў створаны блок беларускіх партый для барацьбы за незалежную Беларусь. У сувязі з гэтым Ластоўскі быў выключаны (фармальна) з партыі эсэраў, якія ў гэты перыяд падтрымлівалі Савецкую ўладу.

Між тым за савецкім кардонам не толькі падавала прыкметы жыцця, але ўсё мацней станавілася на ногі няхай тэрытарыяльна яшчэ невялікая і не да канца зразумелая рэспубліка рабочых і сялян — БССР, быў узяты курс на беларусізацыю, на адраджэнне нацыянальнай культуры. Бачачы поспехі Савецкай Беларусі і відавочную безвыніковасць далейшага супрацьстаяння, у красавіку 1923 года Ластоўскі выйшаў з урада БНР і неўзабаве адышоў ад актыўнай палітычнай дзейнасці. Затое моцна ўзрасла яго навукова-выдавецкая актыўнасць. У 1923—1927 гадах выдаваў у Каўнасе літаратурна-навуковы часопіс «Крывіч», надрукаваў некалькі падручнікаў. У 1924 годзе выдаў капітальны для свайго часу руска-беларускі слоўнік (матэрыялы збіраў два дзесяцігоддзі, нават трохі больш), у 1926 годзе надрукаваў сваю самую буйную навуковую працу — «Гісторыя крыўскай (беларускай) кнігі» — грунтоўны агляд усяго беларускага пісьменства да XVIII стагоддзя ўключна. На думку спецыялістаў, гэта і да сённяшняга часу «адна з найбольш салідных кніг ва ўсёй гісторыі беларускага літаратуразнаўства» (Казбярук У. З клопатам пра спадчыну. ЛіМ, 24.6.1988). Тады ж Ластоўскі напісаў для Інбелкульта і пераслаў у Мінск каштоўныя ўспаміны пра Багдановіча і іншыя матэрыялы, выкарыстаныя Інбелкультам пры падрыхтоўцы першага акадэмічнага выдання твораў Багдановіча.

Вялікае значэнне мела для яго паездка ў Мінск на акадэмічную канферэнцыю па пытаннях правапісу (1926). Канферэнцыя атрымалася вельмі прадстаўнічая — прыехаў нават вялікі Райніс з Рыгі. Для Ластоўскага гэта была як бы разведка. Наспявала важнае жыццёвае рашэнне.

У красавіку 1927 года ўрад Савецкай Беларусі дазволіў Ластоўскаму назусім вярнуцца ў Мінск, дзе яму былі створаны ўмовы для навуковай работы. Ён стаў дырэктарам Беларускага дзржаўнага музея, працаваў у Інбелкульце. 15 ліпеня 1927 года з прыемнасцю пісаў А. Багдановічу ў Яраслаўль: «З павароту да родных палёў я вельмі рад. Скончылася ўрэшце цяжкая эміграншчына. Маю працу, якую я заўсёды смакаваў і да якой імкнуўся. Праца гэта дае мне здавальненне» (Ін-т л-ры АН Беларусі). Як акадэмік і неадменны сакратар створанай у 1928 годзе Беларускай АН, садзейнічаў развіццю навукі на Беларусі, у прыватнасці, шмат займаўся пытаннямі этнаграфіі. І не толькі. Напісаў каларытныя ўспаміны пра нашаніўскі перыяд, пра Я. Купалу (1928, да апошняга часу асталіся ў рукапісе), уваходзіў у камісію па рэформе беларускага правапісу (1927—1929).

Але ўжо насоўваліся чорныя хмары. У «год вялікага пералому» (1929-ты; што ні кажы — назва вельмі дакладная) пачаўся наступ на беларускую творчую інтэлігенцыю. У таямнічых нетрах карных органаў фабрыкуецца сумнавядомая справа «Саюза вызвалення Беларусі». Адна з першых ахвяр — Ластоўскі. З яго бурным супярэчлівым мінулым ён стаў лёгкай здабычай палітычных артадоксаў і кар'ерыстаў. У кастрычніку 1929 года, яшчэ да арышту, Ластоўскага звальняюць з пасады неадменнага сакратара АН, а 6 снежня 1930 года, ужо знаходзячыся ў турме, ён быў пазбаўлены звання акадэміка. У красавіку 1931 года яго выслалі на 5 гадоў за межы Беларусі. Былі высланы (пакуль толькі высланы) і многія іншыя. Нібыта Беларусі сталі непатрэбныя сыны і дочкі, каго яшчэ зусім нядаўна яна склікала на ўсенародную талаку. Ластоўскі працаваў у Саратаве, ва універсітэцкай бібліятэцы, загадчыкам аддзела рэдкай кнігі і рукапісаў. Што здзіўляе: нават у высылцы працягваў займацца навуковай работай. У прыватнасці, у 1934 годзе пісаў у Яраслаўль А. Багдановічу, што знайшоў у Саратаўскай бібліятэцы невядомыя пушкінскія дакументы (Неман, 1987, № 6). Але чаша цярпення яшчэ не была выпіта да дна. У 1937 годзе ва ўмовах тагачаснай рэпрэсійнай вакханаліі Ластоўскі зноў арыштаваны і 23 студзеня 1938 года прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Ёсць звесткі (можа легендарныя?), што вырак не быў прыведзены адразу ў выкананне. Па словах другога пакутніка за Беларусь Я. Дылы, Вацлаў Юсцінавіч загінуў у тым жа 1938 годзе пры ўзрыве ў Магадане. Яго імя на некалькі дзесяцігоддзяў канула ў нябыт. Поўнасцю рэабілітаваны ён толькі ў 1988 годзе (па саратаўскай справе яшчэ ў 1958-м). У 1990 годзе беларускі ўрад аднавіў Ластоўскага ў званні акадэміка.

Нібы спраўдзілася глыбокае прароцтва Купалы, выказанае некалі вельмі даўно ў «Песні званара»:

**Буду ўсё званаром, хоць даўно пад дзярном**
**Спіць мая галава маладая.**
**Эх, бо ведае свет, што вялікіх дум цвет**
**Адно толькі на зломе ўзрастае!**

Ластоўскі загінуў нельга сказаць, каб зусім маладым, але 55 гадоў (калі лічыць ад арышту і высылкі, і таго меней) — таксама не ўзрост. Толькі б жыць і працаваць, шчыраваць для любай Беларусі.

Таленавіты сын народа Вацлаў Юсцінавіч Ластоўскі быў рознабакова адораным чалавекам, у маладыя гады ўдзельнічаў нават у мастацкім афармленні беларускіх кніг, пра што сведчыць наступная, напрыклад, паметка, надрукаваная ў альманаху «Маладая Беларусь»: «Застаўкі (віньеткі) рысунку Власта з узораў слуцкіх паясоў з калекцыі Власта і «Нашае нівы» (Маладая Беларусь, 1913. Сш. 3. С. 145). Багатая літаратурная і навуковая спадчына Ластоўскага паступова вяртаецца народу і яшчэ чакае аб'ектыўнай усебаковай ацэнкі.

Генадзь КІСЯЛЁЎ.

# З КАЛЯДАМІ!



Дзявочыя гаданні на суджанага, гулянні перааправнутых з песнямі, танцамі, вячоркі з жартамі-прыгаворкамі ў даўнія часы былі абавязковымі атрыбутамі свята, якое ў Беларусі называюць Калядамі, ці Калядкамі. І як добра, што напаўзабытыя народныя абрады зноў вяртаюцца ў наша жыццё. А з імі—і цікавасць да мінулага народа, да вытокаў.

Абрад калядавання добра вывучылі і ўдзельнікі фальклорнага ансамбля «Прыдняпроўскія сяброўкі» магілёўскага Дома культуры чыгуначнікаў. На Каляды яны выступяць з абрадавымі песнямі перад землякамі, а жыхары рэспублікі змогуць убачыць выступленне калектыву на экранах тэлевізараў.

НА ЗДЫМКУ: з прыходу ў дом гасцей і пачынаюцца Калядкі.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

## НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ




Такі надпіс упершыню з'явіцца на канвертах і паштовых картках, выдадзеных Міністэрствам сувязі рэспублікі. Яшчэ некалькі гадоў назад нельга было і думаць, каб на дзяржаўным паштовым выданні можна было змясціць надпіс-віншаванне з рэлігійным святам. Але часы мяняюцца, і вось ужо другі раз мы будзем афіцыйна адзначаць Каляды. Да свята і выпуск канверта. На яго малюнку — увітая стужкай зялёная галінка ёлкі, запаленая свечка і кветка. Малюнак вянчае надпіс — «З Калядамі!». Здарылася так, што сярод выпушчаных поштай рэспублікі канвертаў большасць носіць віншавальны характар. Два з гэтых канвертаў — навагоднія. На адным з іх надпіс: «З Новым годам!» і малюнак — галінка ёлкі ў святочным упрыгажэнні, на другім — галінка ёлкі, сняжынкі, запаленая свечка і торба Дзеда Мароза з падарункамі. З часам такія выпускі канвертаў стануць масавымі і філатэлісты, магчыма, не будуць надаваць ім вялікай увагі, але гэтыя канверты — першыя ў серыі падобных выпускаў. А яшчэ раней, некалькі месяцаў таму, на сталічным паштамце з'явіліся канверты з каляровымі малюнкамі букетаў кветак і такімі надпісамі: «Віншуем!» і «Віншую з днём нараджэння!». Усе гэтыя канверты аб'ядноўвае паштовая марка — гэта не звыклая для вока марка з гербам СССР ці паштовымі атрыбутамі і надпісам «Пошта СССР», а першая стандартная беларуская марка для друкаванай паштовай прадукцыі з адлюстраваннем «Пагоні» і беларускага арнамента.

Леў КОЛАСАЎ.

Гэтыя песні з нотамі мы атрымалі ад беларусаў з далёкай Аўстраліі. Міхась і Вольга Бурносы кіруюць хорам нашых суайчыннікаў, якія, збіраючыся разам, спяваюць песні далёкай бацькаўшчыны. У рэдакцыю яны прыслалі некалькі сваіх песень на вершы беларускіх паэтаў. Аўтар слоў «Шыпшыны» — аўстралійскі беларус Янка Ролсан. Сёння мы друкуем дзве песні.

## ШЫПШЫНА




Сэрца маё зашчымела,
І я чуць не абамлела.
Задрыжала, як асіна,
Кветкі з рук я выпусьціла.
Ой, шыпшына, ты, мая,
Што рабіці мушу я! 2 разы.

Янка кветачкі падняў
Ды ціхенька мне сказаў:
«Ты ня бойся, мая міла,
Я люблю цябе, Хрысьціна».
Ой, шыпшына, ты, мая,
Што рабіці мушу я! 2 разы.

Як я крыху пасьмялела,
На мілога паглядзела.
Нашы вочы так зышліся,
Мы раптоўна абняліся.
Ой, шыпшына, ты, мая,
Якая я шчаслівая. 2 разы.

Нечаканае спатканьне
І навек — нераставаньне!
Я шыпшыну узяла,
Дамоў радасна пайшла.
Ой, шыпшына, ты, мая,
Кветка беларуская. 2 разы.

## ХМАРЫ




Паляцеў бы ў луг, дзе Нёман бераг точыць, мые,
Дзе гавораць з ветрам-бурай дубы векавыя.
Дзе над Нёманам старая пахінулась хата,
Дзе так многа пылу ўлетку, дзе пяскоў багата.

Паляцеў бы да курганаў, што стаяць маўкліва,
Да узгоркаў, дзе вясною зеленеюць нівы.
Ой панёсся б з вамі, хмары, я ў той лес цяністы,
Дзе ўдыхалі б мае грудзі хвояў пах смалісты.

Ой ня знаю, я ня знаю, чым я так прыкуты!
Да тваіх, мой родны краю, вобразаў пакуты.
Хмары, хмары, што на небе ходзіце гарамі!
Чаму я не маю крыльяў, чаму я не з вамі! 2 разы.

## ГАЛОЎНАЯ ЎЗНАГАРОДА — ВІТАЛЮ ШЧЭРБЕ

Герой барселонскай Алімпіяды мінчанін Віталь Шчэрба, які заваяваў на іспанскай зямлі шэсць залатых медалёў, у Парыжы быў узнагароджаны «Гран-пры». Гэта штогадовая ўзнагарода прысуджаецца лепшаму спартсмену свету Акадэміяй спорту Францыі.

Яшчэ цэлая група вядомых спартсменаў атрымала прызы і ганаровыя медалі.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 2297.
Падпісана да друку 21.12.1992.